*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ*



# Наша слова




Газета выходзіць з сакавіка 1990 года

№ 41 (1452) 9 КАСТРЫЧНІКА 2019 г.

## Каб не быць "рускімі са знакам якасці". Наш адказ інтэграцыі

Адказ "беларуская" на пытанне пра родную мову падчас перапісу насельніцтва - гэта цяпер тое, што можа зрабіць абсалютна кожны чалавек для падтрымкі суверэнітэту і незалежнасці Беларусі.

Раз на дзесяць гадоў у краіне адбываецца цікавае мерапрыемства - перапіс насельніцтва. Гэтым разам беларусаў палічаць, памацаюць і паглядзяць на іх з 4 па 30 кастрычніка. І цяпер пытанні перапісу - надзвычай важныя.

Перапіс важны таму, што менавіта ад яго вынікаў адштурхоўваюцца нашыя статыстыкі, і, адпаведна, улады ў вызначэнні далейшага шляху развіцця дзяржавы і дзяржаўнай палітыкі. Напрыклад, ад сёлетніх вынікаў маштабнай апытанкі, па словах сацыялагіні, аналітыка Беларускага інстытута стратэгічных даследаванняў Алены Арцёменкі, будзе залежаць рэформа адміністрацыйнага падзелу краіны. Па меркаванні адмыслоўцы, у некаторых раёнах колькасць насельніцтва можа аказацца каля 5-7 тысяч чалавек, і, адпаведна, там нерацыянальна ўтрымліваць адміністрацыю.




Але найважнейшыя пытанні - гэта пытанні 12 і 13 у перапісным лісце. Яны будуць гучаць так: *"Ваша родная мова (мова, засвоеная першай у раннім дзяцінстве)?"* і *"На якой мове вы звычайна размаўляеце дома?"*

Пытанні сфармуляваныя так, бо гэта - рэкамендацыі "Канферэнцыі еўрапейскіх статыстыкаў". Аднак паняцце "роднай мовы" і "першай засвоенай" усё ж не перашкаджаюць назваць любому чалавеку роднай мовай **беларускую**.

І гэта, насамрэч, не будзе хлуснёй. Нават калі ад пачатку вы размаўляеце на рускай мове - вы ж у дзяцінстве засвоілі "Калыханку"? Ведаеце, хто такі Дзед-Барадзед? А значыць, засвоілі і беларускую мову.

Вынікі перапісу будуць апрацоўвацца даволі доўга, і не ўсе з гэтых вынікаў нам пакажуць. Бо там ёсць "слізкія" пытанні наконт працоўнай міграцыі і жадання з'ехаць з краіны. Але сапраўдныя лічбы гарантавана давядуць да тых, хто прымае палітычныя і эканамічныя рашэнні наконт будучыні краіны.

Цяпер наша будучыня даволі цьмяная. Да нас цягнуць свае рукі розныя "руския міры" ды "паглыбленыя інтэграцыі". Шмат хто занепакоена кажа, што існаванне Беларусі як самастойнай дзяржавы ўжо пад вялікай пагрозай, і трэба кансалідавацца ўсім, каб надалей жыць у сваім доме. І адказ "беларуская" на пытанне пра родную мову - гэта цяпер тое, што можа зрабіць абсалютна кожны чалавек для падтрымкі суверэнітэту і незалежнасці Беларусі.

Такім чынам мы даводзім важную рэч: беларусы - гэта не "рускі мір". Не "апалячаныя рускія" і нават не "рускія са знакам якасці", не "малодшая славянская сястра". Гэта асобны і асаблівы народ, у якога ёсць свая мова, культура, традыцыі, зямля і краіна.







Беларуская мова - гэта і абарона ад усяляк "глыбокіх", "паглыбленых" і іншых схаваных, прыкапаных ды замаскіраваных інтэграцый. Гэта маркёр: што беларусы - супраць паглынання сваёй краіны нейкімі "вялікімі суседзямі". Прынамсі, гэта азнака таго, што "лёгкіх інтэграцый" не будзе. І папярэджанне тым, хто на такія "інтэграцыі" спадзяецца, - найперш, з нашага боку. Прызнаемся: у Беларусі хапала не толькі партызанаў, але і калабарантаў.

Руская мова ў нас не мае патрэбы ў падтрымцы. Беларуская ж фактычна выключаная з ужытку ў адукацыі, СМІ, заканадаўстве, рэальным жыцці. Той, хто спрабаваў уладкаваць дзіця ў беларускамоўную групу дзіцячага садка альбо дамагчыся беларускамоўнага навучання ў пачатковай школе, выдатна пра гэта ведае. Хаця такога быць не павінна - каб тыя, хто жадае навучаць дзяцей на мове тытульнай нацыі, дамагаліся б гэтага ледзьве не з боем.

Чым больш адказаў у перапісе пра "родную беларускую" - тым больш шанцаў на з'яўленне навучання па-беларуску, беларускіх садкоў і школьных класаў.

Часцяком сустракаюцца нараканні, што зварот да чыноўніка на беларускай мове выклікае адказ ці на рускай, ці з памылкамі. Вялікая колькасць людзей, якія ў час перапісу заявяць пра родную беларускую, будзе вымушаць чыноўнікаў не адварочвацца ад беларускамоўных зваротаў (за апошнія гады, адзначым дзеля справядлівасці, беларускую мову яны вывучылі няблага).

Сацыёлагі ў гэтым пытанні папярэджваюць пра "спіраль маўчання". Гэта калі ўсе звыкліся, што, нібыта, "большасць адкажа пра родную мову - руская, дык я адкажу таксама гэтак". Насамрэч, усё якраз наадварот. Гэта беларуская мова трапіла ў "спіраль маўчання". Насамрэч, мова - папулярная. Быць беларускамоўным - азначае быць "у трэндзе". Уважаць беларускую мову за родную - гэта быць адукаваным, прынамсі, ведаць больш за адну мову. Проста нашая мова "не раскручаная" так, як належыць, а яе сапраўдная папулярнасць - замоўчваецца.

Не верыце? Паводле перапісу 2009 года роднай мовай беларускую назвалі 53,2% насельніцтва Беларусі. У час перапісу 1999 года роднай мовай беларускую назвалі 73,6%!

Дык якая ваша родная мова?

***Сяргей Пульша***
***"Новы час".***

## Першай сталіцы ВКЛ - 975 гадоў

Адзін са старажытных гарадоў Гарадзеншчыны - Навагрудак - адзначыў 975-годдзе. Урачыстае адкрыццё адбылося ў цэнтры горада, яно мела назоў "Сіла мінулага - у гісторыі, сіла будучага - у нас". Суправаджалася адкрыццё тэатралізаваным пралогам "Слаўны горад Навагрудак у легендах і гісторыях".







Парадавалі навагрудчан і гасцей горада фестываль гістарычнай рэканструкцыі і ўрачыстае адкрыццё памятнага знака "Уязная брама", а таксама сквера на вуліцы Адама Міцкевіча і новага будынку Цэнтра сацыяльнага абслугоўвання насельніцтва.





Калекцыянер Уладзімір Ліхадзедаў прэзентаваў сваю новую фотакнігу "Навагрудак. Падарожжа ў часе". А мастакі здзіўлялі прысутных вернісажам "Навагрудскі Манмартр". Юбілейнае свята ў Наваградку аздаблялася рознымі конкурсамі, выставамі, выступленнем пісьменнікаў, песнямі, гандлем і салютам.

***Беларускае Радыё Рацыя, Навагрудак.***
*Фота novgazeta.by, Facebook,Twitter.*

## 26 верасня - Еўрапейскі дзень моў

Юрый Хлапонін

# Мова і нацыянальная свядомасць

*(Заканчэнне. Пачатак у папярэдніх нумарах.)*

Калі параўноваць вышэй апісанае са шляхам развіцця польскай мовы, тут патрэбна адзначыць свае асаблівасці. Таксама, як і ўкраінская, і ўсе іншыя мовы народаў Расійскай імперыі, яна знаходзілася пад уціскам з боку ўладаў, адпаведна, яе ўжыванне знізілася ў часы панавання расейскай улады ў Польшчы. Адметнасці ж - як і чаму палякі змаглі зберагчы сваю мову, на маю думку, такія:




1. Польская мова была дзяржаўнай у Рэчы Паспалітай (аж да прыпынення яе існавання ў канцы 18 стагоддзя), а дагэтуль - у Польскім каралеўстве, таму за шматвекавы прамежак яна мела магчымасць умацаваца ў граматычным, літаратурным культурным планах.

2. Пад уладай Расеі знаходзілася не ўся тэрыторыя сучаснай Польшчы (як, дарэчы, і Украіны), таму можна меркаваць пра адрозненні ў абставінах развіцця польскай мовы на той перыяд.

3. Носьбітамі польскай мовы, яе так бы мовіць "аплотам", заўсёды былі польскае дваранства, вайскоўцы, культурны клас, эміграцыя, менавіта яны, нягледзячы на іх апальнае становішча, асабліва пасля шматлікіх паўстанняў супраць расейскай улады, змаглі пасля стаць ля кіравання Польшчай пасля аднаўлення яе незалежнасці ў 1918 годзе.

4. Як вынік, польская мова мела зусім іншы, аднаўленчы шлях развіцця, адбыліся яе граматычныя змены, адбыўся ўплыў англійскай, французскай моваў.

Можна зрабіць выснову: адраджэнне ці занепад мовы часта залежыць ад таго, хто пры ўладных структурах з'яўляецца рэгулятарам моўных адносін у краіне. Падобнае датычыцца і аднаўлення фактычна "з нуля" моваў іўрыту, каталонскай мовы.

Калі казаць пра іўрыт - яго аднаўленне ажыццяўлялася на працягу мінулага стагоддзя, калі ён быў часткай руху сіянізму - ідэалогіі, мэтай якога з'яўляецца аб'яднанне і адраджэнне яўрэйскага народа на яго гістарычнай радзіме, у Ізраілі. Пачалося гэта з заснаванняў школ для выкладчыкаў іўрыту, адкрыццё моўных курсаў у кібуцах, яўрэйскіх супольнасцях. Гэта потым знайшло сваё адлюстраванне ў хвалях вяртання яўрэяў у Ізраіль. Важны фактар - іўрыт як мова штодзённай камунікацыі часта абіраўся на дабраахвотнай аснове. Хаця, працэс усталявання іўрыту ў Ізраілі меў таксама і свае, прымусовыя, меры. Так, напрыклад, у Тэль-Авіве быў створаны Легіён Абаронцаў Мовы, які служыў для абароны камунікацыі на іўрыце. Габрэі, якія былі падслуханыя размаўляючымі на іншых мовах на вуліцы, папярэджваліся: "Габрэй, гавары на іўрыце".

Пасля іўрыт стаў адзінай дзяржаўнай мовай маладой краіны Ізраіль, ён з цягам часу выцесніў іншыя яўрэйскія мовы. Да таго часу, калі Ізраіль атрымаў незалежнасць у 1948 годзе, 80,9% габрэяў, якія нарадзіліся ў Палестыне, размаўлялі на іўрыце як адзінай мове ў паўсядзённым жыцці, і яшчэ 14,2% габрэяў, народжаных у Палестыне, выкарыстоўвалі яго ў якасці першай сярод двух ці больш моваў.

Прыклад Каталоніі вельмі добра апісаны ў матэрыяле Нашай Ніве, таму менавіта ён і тут. Нягледзячы на страту гэтым паўночна-ўсходнім рэгіёнам Пірэнейскага паўвострава незалежнасці яшчэ ў Сярэднявеччы, каталонскую мову ўдалося захаваць аж да 30-х гадоў мінулага стагоддзя, калі з прыходам фашысцкага рэжыму Франсіска Франка мова фактычна знікла з ужытку. На дадзены момант, паволі адбываецца адраджэнне каталонскай мовы - так, на ёй ужо камунікуюць каля траціны насельніцтва. Цікавы факт - паралельна з гэтым адраджаецца рух каталонцаў за незалежнасць ад Іспаніі.





Аўтары артыкула адзначаюць: каталонская мова зберагла сябе, дзякуючы такім чыннікам:

1. Сярод каталонцаў былі тыя, хто размаўляў на каталонскай дома ці на публіцы, зацята, нягледзячы на забарону.

2. Падпольны распаўсюд улётак і кніг па-каталонску.

3. Узаемная цярпімасць паміж каталонцамі і прыезджымі ў рэгіёне.

Пасля смерці дыктатара Франка ў Іспаніі аднавілася дэмакратыя, а разам з тым аўтаномія Каталоніі, і, адпаведна, падтрымка ідэі адраджэння каталонскай мовы. Як вынік - у 90-я гады амаль 100% насельніцтва аўтаноміі разумела каталонскую мову.

Аднак разам з ростам іміграцыі ў Каталонію з краін Афрыкі, Усходняй Еўропы пачала ажыццяўляцца праграма адраджэння каталонскай мовы ў наступным:

1. Пачатковае і сярэдняе навучанне ў Каталоніі вядзецца толькі па-каталонску. Ужо ва ўніверсітэтах кожны выкладчык сам для сябе абірае мову навучання.

2. Працоўная мова, мова дакументацыі ў мясцовых адміністрацыях - каталонская. Але па законе з наведнікамі там гавораць на той мове, на якой яны звяртаюцца. Калі чыноўнік звяртаецца да незнаёмага чалавека, ён павінен гэта рабіць па-каталонску. Але калі чалавек яму адказвае па-іспанску, чыноўнік абавязаны перайсці на іспанскую мову.

3. Каталонскія грамадскія СМІ вяшчаюць па-каталонску.

4. Дэбаты ў каталонскім парламенце адбываюцца выключна па-каталонску. Агулам, ад пачатку працы аўтаномнага каталонскага парламента ў 1979 было вырашана, што ён будзе працаваць па-каталонску.

5. Усе вывескі, шыльды павінны быць прынамсі на каталонскай. Па жаданні, можна і варыянт па-іспанску. Але каталонскі павінны быць абавязкова. Уведзены мінімальныя, сімвалічныя штрафы за парушэнне гэтага правіла.

6. Каталонская паліцыя працуе па-каталонску. Агульнаіспанская паліцыя займаецца пытаннямі межаў, барацьбы з наркатрафікам, тэрарызмам. Яна працуе на іспанскай мове, большасць яе супрацоўнікаў прыехалі з іншых рэгіёнаў Іспаніі. Армія - толькі на іспанскай мове.

7. Палова кінасеансаў у Каталоніі павінна быць па-каталонску (але пакуль гэтае правіла практыкай не стала).

Такім чынам, гледзячы на прыклады захавання народамі сваёй роднай мовы, папершае, мы пачнем з псіхалагічнай спробы тлумачэння гэтым феноменам: мова - гэта свайго роду "афармленне" свядомасці, якое ўплывае на нацыянальную самаідэнтыфікацыю чалавека. У цэлым, мы можам казаць пра існаванне пэўнага генетычнага коду нацыі, у які ўваходзіць, акрамя мовы, гісторыя развіцця этнасу, традыцыі, адным словам, тое, што дазваляе аб'ядноўваць людзей у народы і нацыі. Другі фактар - адраджэнне мовы кіравалася нацыянальнымі элітамі, якія мелі сваёй мэтай аднавіць нацыянальную дзяржаву менавіта на такіх складніках, як, у тым ліку, і мова.

У такім выпадку мы можам задаць пытанне: у першай палове 1990-х гадоў у Беларусі адзінай дзяржаўнай мовай была беларуская, адбывалася беларусізацыя адукацыі, войска. Аднак вынікам гэтага стаў беларускі выбар 1995 года перайсці на двухмоўе, тым самым адмаўляючыся ад адной мовы. Чаму так сталася? Першая прычына - паступовае знікненне старабеларускай мовы з ужытку яшчэ пры Рэчы Паспалітай (!) зрабіла з беларускай мовы "сялянскую", малаўжывальную, што ў далейшым таксама стала элементам маніпуляцыі тых, хто прасоўваў ідэі станаўлення чужой мовы на беларускіх землях. Такім чынам, беларуская мова, так бы мовіць, страціла свае карані. Па сутнасці сваёй, беларуская мова ў апошнія некалькі стагоддзяў была ў становішчы мовы меншасці, якая не мае пэўнага афіцыйнага літаратурна-граматычнага ўладкавання.

Замест высновы хацелася б адказаць на пытанне, з якой мэтай быў напісаны гэты тэкст? Напэўна, каб паказаць, наколькі важнай з'яўляецца камунікацыя на мове той краіны, у якой ты жывеш. Магчыма, тэма мовы часта з'яўляецца прадметам правакацый, канфліктаў паміж людзьмі, этнічнымі групамі, тым не менш, мова - адзін з галоўных паказчыкаў, ідэнтыфікатараў народа, нацыі, тое, што дазваляе захаваць як суверэнітэт краіны, так і яе культурную разнастайнасць.

Наконт пытання - усё ж такі, ці ўплывае мова на фарміраванне свядомасці, магу адзначыць: мова - як мы ўжо казалі, гэта безумоўна важны фактар, які дазваляе фарміраваць нацыянальную свядомасць чалавека. Аднак не трэба забываць: акрамя мовы, уплыў таксама маюць традыцыі, гістарычны шлях развіцця этнасу. Наколькі свядомасць іграе ролю ў мове камунікацыі, можна меркаваць з феноменаў яе адраджэння ў свеце. У такіх выпадках мова мела складнік цэлага ідэалагічнага кірунку, свядомага выбару людзей, на якой мове ім размаўляць. Такім чынам, працэсы звонку дазвалялі замацаваць моўны стрыжань знутры.

# Памёр Андрэй Вашкевіч

## "Гады чатыры кожны нумар "Нашага слова" быў складзены рукамі яго і ягонай мамы"

На 49-м годзе жыцця памёр былы супрацоўнік газет "Культура", "Імя", "БДГ", "Народная Воля" Андрэй Вашкевіч.



Вось што ўспамінае пра яго паэт Віктар Шніп: *"Мы з ім былі знаёмымі з пачатку 90-х. Я тады працаваў адказным сакратаром газеты "Наша слова". Наклад дасягаў да дзесяці тысяч. Газета выходзіла на васьмі старонках. Друкавалася ў "Чырвонай зорцы", а там не было прыстасавання, каб чатыры сярэднія старонкі выдання ўкладваліся ў сярэдзіну газеты. Трэба было ўкладаць рукамі. Паспрабавалі рабіць гэта ўсёй рэдакцыяй. Зрабілі раз-другі і, убачыўшы, што з-за гэтага застаецца мала часу саму газету рыхтаваць да друку, пачалі шукаць ахвочых падпрацаваць па дамове. Даўгавата шукалі, і здавалася, што ніколі нікога не знойдзем. А тут неяк, ідучы з друкарні, сустрэў Андрэя Вашкевіча. Яму было за дваццаць. Прапанаваў падпрацаваць. Андрэй не адмовіўся, сказаўшы, што аднаму будзе цяжкавата, а вось, калі яго мама пагодзіцца, то возьмецца за працу. Мама не адмовілася. І потым гады чатыры, а мо і болей, кожны нумар "Нашага слова" быў складзены рукамі Андрэя Вашкевіча і яго мамы".*

Прычынаю смерці стала анкалогія.

***nn.by.***

# Перапіс ужо выклікаў хвалю абурэння

Першыя дні Агульнанацыянальнага перапісу насельніцтва выклікалі хвалю абурэння сярод беларусаў, якія хацелі прайсці гэтую працэдуру праз Інтэрнэт. Сайт не працаваў і быў афармлены на расейскай мове. Падчас перасылкі тэкставых паведамленняў Нацыянальны статыстычны камітэт карыстаўся выключна расейскай мовай. Кажуць гарадзенцы:

- Падчас мінулага перапісу большасць беларусаў назвала сваёй мовай беларускую. Таму я лічу, што гэтыя СМС-кі павінны быць на дзвюх мовах.

- Канешне, гэта жах - удзельнічаць у перапісе я буду толькі з адной мэтай, каб пазначыць сваёй мовай беларускую.

- Для мяне самае зручнае - гэта ў Інтэрнэце.

- Буду ўдзельнічаць у перапісе, калі ўсё ж такі атрымаецца зайсці на сайт і прайсці гэта праз Інтэрнэт, то канешне, натуральна.

Частка грамадзян мяркуе, што ўдзел у перапісе толькі на руку аўтарытарнай уладзе. Бо вынікі могуць быць фальсіфікаваныя, мяркуе гарадзенец Дзяніс:

- Мая сям'я вырашыла не ўдзельнічаць у перапісе, бо няма даверу да вынікаў гэтай перапісной кампаніі, як у прынцыпе да любых дзяржаўных ініцыятываў. За чвэрць стагоддзя ўжо сфармавана і ўдасканалена сістэма маштабных фальсіфікацый. Дзяржаўныя органы будуць выкарыстоўваць вынікі гэтага так званага перапісу ў сваіх мэтах.

Агульнанацыянальны перапіс насельніцтва Беларусі будзе праходзіць да 30-га кастрычніка. Ён ажыццяўляецца праз інтэрнэт, перапісчыкамі і ў адмысловых пунктах.

***Беларускае Радыё Рацыя, Гародня.***

# Выйшаў "Іспанска-беларускі слоўнік для школьнікаў"

Аўтары "Іспанска-беларускага слоўніка" Мікола Бусел і Якуб Лапатка - настаўнікі вышэйшай катэгорыі, з вялікім стажам працы на ніве выкладання іспанскай мовы. Абапіраючыся на свой досвед, яны і склалі гэты слоўнік менавіта для школьнікаў. Апрача таго, яны ўважліва вывучалі падручнікі і праграмы розных краін і моў. І склалі адпаведны рэестр слоў менавіта для школьнага ўжывання. Абодва аўтары - выпускнікі іспанскага факультэта Менскага дзяржаўнага інстытута замежных моў (зараз Менскі лінгвістычны ўніверсітэт).




Слоўнік змяшчае каля 4000 слоў. Слоўнік можна спампаваць на сайце tbm-mova.by/publication1.

***tbm-mova.by.***

# Моўныя курсы "Мова нанова - Ліда" распачалі новы навучальны год

Бясплатныя курсы беларускай мовы "Мова нанова - Ліда" пасля доўгіх летніх вакацый 2-га кастрычніка распачалі свой новы навучальны год. Да таго ж моўныя курсы прывіталі сваіх слухачоў не толькі ў новым сезоне, але і ў новым памяшканні, па новым адрасе: у банкетнай зале кавярні хуткага харчавання "Тутака" па вуліцы Ленінская, 22а.

Заняткі прайшлі ў цёплай сяброўскай атмасферы, на іх завітаў вельмі цікавы госць - беларускі спявак, музыкант мультыінструменталіст і этнограф Сяржук Доўгушаў.






У граматычнай частцы заняткаў, якую правяла вядоўца курсаў Наталля Тананушка, слухачам было прапанавана прыгадаць пройдзены матэрыял за мінулы вучэбны год, адказваючы на пытанні моўнага тэсту "Тэорыя і практыка мовы". Пытанні, якіх было дванаццаць, і для падрыхтаванага вучня былі далёка як няпростыя. Але ўсе справіліся добра.

Другая частка заняткаў пазнаёміла слухачоў курсаў з шаноўным госцем. Спадар Сяржук распавёў слухачам пра цікавыя музычныя інструменты беларускага фальклору, іхнюю гісторыю, прадэманстраваў гучанне і пазнаёміў з этнічнымі спевамі беларусаў. Таксама не менш цікавымі былі інструменты фальклору з іншых краін - этнічных народаў Чэхіі і Амерыкі.




Разам з шаноўным госцем слухачы з задавальненнем хорам спявалі старадаўнія народныя беларускія спевы і плясказі ў такт.

Акрамя гэтага шаноўны госць вельмі цікава распавёў пра свае выступленні ў ЗША, адкуль не так даўно вярнуўся. Было вельмі цікава пачуць пра існаванне музеяў прысвечаных культуры карэнных народаў Амерыкі, пра лад і жыццё сучасных амерыканцаў, а таксама пра жыццё беларусаў, якія з'ехалі ў ЗША.

Напрыканцы Сяржук Доўгушаў прэзентаваў курсам "Мова нанова - Ліда" цудоўны скарб - зборнік фальклорнай спадчыны беларусаў "Бяседныя песні". У гэтым выдатным зборніку зафіксавана песня, якая патрапіла нават з нашых мясцінаў - в. Феліксава Лідскага р-на, запіс быў зроблены ў 1992 годзе, яе праспявала жыхарка вёскі Марыя Іванаўна Дула: "Я выпіла, выхіліла…"

*Я выпіла - выхіліла,*
*сама сябе пахваліла,*
*што я добрага роду -*
*п'ю гарэлачку як ваду,*
*захілілася ў куток,*
*по сем чарак у раток.*

Таксама шаноўным госцем былі зроблены падарункі, якія маглі атрымаць слухачы за правільныя адказы на яго пытанні. А таксама кожны ахвочы мог патрымаць у сваіх руках музычныя інструменты і зрабіць фота на памяць.

Са свайго боку моўныя курсы "Мова нанова - Ліда" таксама не пакінулі шаноўнага госця без падарунка.

"Мова нанова - Ліда" запрашае ўсіх жадаючых на свае заняткі бясплатных курсаў беларускай мовы ў канцэпцыі якіх - неакадэмічнае вывучэнне мовы.







Кожны тыдзень у сераду ўсе ахвочыя могуць далучыцца да беларускамоўнага асяроддзя, падцягнуць свае веды роднай мовы, каб карыстацца ёю ў паўсядзённым жыцці.

Шануйма родную мову, вучымся і размаўляем!

***Алег Лазоўскі,***
*сябар Лідскай гарадской арганізацыі ТБМ.*

# Выстава праектаў сучасных касцёлаў і сацыяльных цэнтраў

У белай зале Чырвонага касцёла ў Менску дзейнічае выстава творчых праектаў архітэктара Аляксандра Базевіча. Жыхары сталіцы змаглі пазнаёміцца з самім аўтарам і яго мілай жонкай Марыяй на адкрыцці экспазіцыі.

Прысутных дабраславіў на добры прагляд ксёндз Кірыл Бардонаў:

- Аляксандр Базевіч стварае аб'екты, якія служаць малітве, дарозе да Бога, асвячэнню чалавека: гэта каталіцкія і праваслаўныя храмы, аб'екты, якія служаць выхаванню дзяцей і моладзі, тым, каму патрэбна дапамога. Няхай праца архітэктараў і будаўнікоў спрыяе людзям на доўгія гады! -пажадаў святар.

Прыхаджане касцёла з цікавасцю выслухалі выступленні аўтара праектаў і пазнаёміліся з яго працамі. Наведаць мерапрыемства прыйшлі калегі і сябры творцы.



Аляксандр Францавіч Базевіч нарадзіўся ў Жодзішках у 1962 годзе. Смаргонскі край паўплываў на станаўленне яго светапогляду. Старадаўні "Віленскі край", як яго называюць мясцовыя жыхары, дзе захавалася шмат помнікаў гістарычна-культурнай спадчыны, паўздзейнічаў на выспяванне светапогляду будучага дойліда. Срэбная прыгажуня Вілія, 400-гадовы касцёл у Жодзішках, сядзіба Міхала Казіміра Агінскага вышэй па плыні ракі, рэшткі Крэўскага замка - усе навакольныя мясціны стварылі непаўторную атмасферу, якая спрыяла развіццю таленту і здольнасцяў.

Будучы архітэктар з дзяцінства быў зачараваны моцай і прыгажосцю храмаў, якія лучаць моцную энергію Святога Духа і Творчасці. Ён вывучаў таксама рысы народнага дойлідства, якія адбіліся ў маёнтках, броварах, корчмах, сядзібнай архітэктуры, і накіроўвалі да выбару прафесіі. У 1990 годзе Аляксандр Францавіч скончыў Беларускую дзяржаўную політэхнічную акадэмію. Ён набыў значны досвед і выпрацаваў творчы почырк пры стварэнні праектаў забудоў сацыяльнага прызначэння.

- У другой палове 80-тых гадоў перад праектыроўшчыкамі паўстала шмат пытанняў, бо многія заказчыкі зніклі, трэба было вызначыць, што будаваць, як жыць далей, - патлумачыў доктар архітэктуры прафесар БНТУ, Сяргей Аляксеевіч Сергачоў. - Аляксандр Базевіч не пакінуў архітэктуру, працягваў праектаваць катэджы, школы, але сэрца паклікала яго да стварэння культавых аб'ектаў. Трэба сказаць, што ў тыя часы яшчэ не было распрацавана нарматыўнай дакументацыі на такія сучасныя забудовы, тэма была новай. Касцёлы ў майго калегі атрымліваюцца вельмі добрыя, у іх праяўляюцца рысы беларускай архітэктуры!



Аўтарству А. Базевіча належыць шэраг культавых забудоў (з іх - 27 касцёлаў). На выставе прадстаўлены праекты касцёлаў, якія ўпрыгожылі Беларусь у апошнія дзесяцігоддзі: касцёл св. Казіміра ў Стоўбцах, каталіцкі цэнтр св. Арханёла Міхаіла ў Смаргоні, касцёл Маці Божай Ружанцовай у Менску і іншыя.

Самым вялікім і складаным праектам А. Базевіча з'яўляецца цэнтр у Смаргоні, які выконвае адукацыйную, выхаваўчую і камунікатыўную функцыю. Ён атрымаў дыплом Беларускага саюза архітэктараў на Рэспубліканскім аглядзе-конкурсе архітэктурных твораў у 2001 годзе. Паспяхова былі выкананы архітэктарам праекты грамадскага прызначэння, такія, як бізнэс-цэнтр "Падол" у Гародні (1994-95), цэнтр фірмы " Грэйп" у Салігорску, гандлёвы цэнтр "Сафія" ў Бабруйску (2008 ), шэраг аб'ектаў агратурызму: сямейны турыстычны комплекс у Заслаўі, турыстычная база на Браслаўскіх азёрах, экасядзіба "Налібоцкая пушча", комплекс "Крэўскі маёнтак" на трасе Менск-Вільня, фальварак "Вяча" ў в. Дафарэнцыя Менскага раёна і іншыя.

- Аляксандр Базевіч належыць да тых сапраўдных майстроў, якія ствараюць гарманічнае навакольнае асяроддзе, якое спрыяе чалавечай душы,- адзначыў сябар Беларускага саюза архітэктараў Дзяніс Олін.

Спадар Аляксандр знаходзіць падтрымку ў сваёй сям'і: яго жонка Марыя - архітэктар, яна піша выдатныя вершы на беларускай мове, у сужанцаў - дзве дачкі.



*"Удзячна лёсу, што са мной ты побач,*
*Табе ўдзячна за душы цяпло,*
*Што здольны падзяліць са мною радасць,*
*Што сэнс жыцця - Спагада і Дабро!"-*
напісала спадарыня Марыя.

Выстава будзе доўжыцца і прыцягне ўвагу наведвальнікаў.

***Э. Дзвінская,***
*фота аўтара.*

1-2. На адкрыцці выставы;
3. Праекты А.Ф. Базевіча.

## Талент

Талент як сонца!
Яго не схаваеш нідзе…
Ён не згарыць,
Не патоне ў шумлівай вадзе…
Нельга яго падарыць, ні скарыць, ні прадаць…
Грэшна, таксама, у сэрцы закрытым трымаць…
Плённым хай будзе ў гэтый віхуры падзей,
Хай акрыляе і цешыць надзеяй людзей,
Крочыць уперад, змагацца з нягодай, каб жыць,
Верыць і марыць, і толькі як можна - тварыць!
Бо толькі сам Чалавек здольны вызначыць лёс,
Каб яго талент узнёсся да самых нябёс.

*Марыя Базевіч.*

*Сымон Барыс*

# Вайна - гэта масавы тэрор

Нядаўна ў штотыднёвіку "Наша слова" быў надрукаваны невялікі артыкул пра Францішка Аляхновіча. І там сказана, што невядома хто забіў праслаўленага драматурга: чырвоныя партызаны, акаўцы, а можа і немцы. Вось так прыкладна напісана і ў Вікіпедыі. Пара пра гэта напісаць праўду. Хто забіў яго?

Так ужо здарылася, што я будучы настаўнікам як краязнавец у 1970-х гадах збіраў успаміны партызанаў і падпольшчыкаў, якія дзейнічалі ў Менскім, Заслаўскім і Вілейскіх раёнах. Гэтыя ўспаміны надрукаваны ў маёй кнізе "Бліскавіцы над Заслаўем" у 2015 годзе. Аднак у кнігу трапіла не ўсё, што я пачуў. Напрыклад, я дакладна памятаю, як адзін з партызанаў распавядаў мне, як ён спецыяльна хадзіў з-пад Іллі ці з-пад Лагойска аж у Вільню, каб забіць рэдактара газеты "Беларускі голас" Ф . Аляхновіча. Было такое заданне ад камандавання. Хто даваў заданне - я, безумоўна, не памятаю. Два партызаны прыйшлі ў Вільню днём па падробленых дакументах. Адрас жыхарства Ф. Аляхновіча ім далі, выпраўляючы на гэта заданне. Увечары падыйшлі да дома, дзе ён жыў. Гарэла святло, і ён нешта каля акна пісаў. Мне памятаецца, што быццам яго забілі праз акно. Але Вікіпедыя, паводле слоў жонкі, піша, што ў дзверы пастукалі і ён выйшаў, і тады яго застрэлілі. Цяпер ужо не так важныя тыя падрабязнасці забойства, як хто гэта зрабіў. У сваёй кнізе я гэтага не надрукаваў, але памятаю, як мне гэта распавядалі. У маім архіве магчыма і запісана пра гэта, а можа нават і няма такога запісу. Ды хто ж хадзіў у Вільню? Сёння я не магу цвёрда назваць прозвішча забойцы, але гэта быў адзін з трох - Цімчук, Фралоў або Адамчык. Усе гэтыя асобы хадзілі па розных заданнях пад Вільню. І вось адзін з іх мне і сказаў, як ён застрэліў рэдактара газеты "Беларускі голас". Застрэлілі яго за тое, што той выдаваў нацысцкую газету. Гэта былі савецкія партызаны. Так што акаўцы тут не вінаватыя. Савецкія партызаны таксама забілі і рэдактара менскай "Беларускай газеты" Уладзіслава Казлоўскага. Як мне помніцца, таксама мне нехта з маіх суразмоўцаў распавядаў мне пра гэта. Аднак чамусьці Вікіпедыя называе там нейкія два прозвішчы тэрарыстаў, якія нагадваюць яўрэйскія. Я ж сустракаўся толькі з беларусамі і рускімі партызанамі, якія падпарадкоўваліся толькі Маскве. А вось, хто забіў Вацлава Іваноўскага, застаецца загадкай. На мой погляд, гэта зрабілі савецкія партызаны, але ў гэтым былі зацікаўлены і эсэсаўцы.

Што датычыцца рэдактараў беларускіх газет, дык тут хоць нейкую віну можна прыпісаць рэдактарам. Але возьмем беларускую школу. Увосень 1941 года амаль усе школы, якія былі ў Беларусі да вайны, былі адкрыты, і настаўнікам прапанавалі вярнуцца ў школу, і ім плаціці зарплату. У так званых "народных школах" было 7 класаў, у якіх дзеці вучыліся ад 7 да 14 гадоў. Заняткі праводзіліся на беларускай мове. У класе была нацыянальная сіволіка (бела-чырвона-белы сцяг, герб "Пагоня" і кліч "Жыве Беларусь!"). Калі ў 1942 годзе пачаўся партызанскі рух, дык партызаны школы палілі. А калі не палілі, дык забаранялі дырэктару або настаўніку школы праводзіць заняткі ў школе. Загад давалі толькі адзін раз настаўніку ці дырэктару школы, а калі ён не выконваў яго, дык у другі прыход партызаны расстрэльвалі непаслухмянага. І здаралася часта нават так, што партызаны школу закрылі, яна не дзейнічала, а настаўнікі атрымоўвалі зарплату за сваю работу, бо лічылася, што школа працуе.

Усё гэта вайна. Вось я сёння адкрыў сваю кнігу "Бліскавіцы над Заслаўем" і чытаю. Калі адступалі чырвонаармейцы з Беласточчыны ў чэрвені 1941 года, заходзілі ў вёскі і прасілі паесці, дык недзе кармілі іх, а ў іншых вёсках есці не давалі. Вось звесткі пра гэта з успамінаў Уладзіміра Абрамчыка: *"На территории Западной Белоруссии в польских деревнях кто давал поесть, а кто и нет. Некоторые поляки прямо нам отказвали в пище: "Пусть вас Сталин кормит". Мы такие семьи расстреливали. Когда мы отступали, мы уже знали, что немцы делают с военопленными".* Звярніце ўвагу на сказанае, што расстрэльвалі не толькі таго, хто такое сказаў, а сем'і. А гэта і ёсць масавы тэрарызм вайны. Забівалі ні за што зусім невінаватых людзей. Вайна не выбірае ахвяры - знішчае ўсіх, хто знаходзіцца на шляху баёў.





# Ушанаванне памяці шляхетнага фатографа і літаратара Яна Булгака

У апошнія гады апантаныя людзі і даследчыкі ўшаноўваюць памяць такіх знакамітых асобаў, як М. Агінскі, С. Манюшка, і зараз да іх можна далучыць Яна Булгака. Шмат зрабіў для адраджэння памяці пра яго Францішак Баляслававіч Жылка, прадпрымальнік, дырэктар ТАА "Фра-Міл", шчыры католік. У супрацоўніцтве з Міханавіцкім сельскім саветам ён ініцыяваў усталяванне памятнага каменя з мемарыяльнай дошкай. Аўтарам выявы на дошцы з'яўляецца скульптар Валеры Калясінскі.







Ян Булгак быў вядомым у Еўропе фотамастаком, тэарэтыкам фотасправы, публіцыстам. Ён нарадзіўся 6 кастрычніка 1876 года ў вёсцы Асташын на Наваградчыне. Пасля заканчэння гімназіі ён вучыўся на філасофскім факультэце ў Кракаўскім Ягелонскім універсітэце. У 1899 годзе ён з прычыны фінансавых цяжкасцяў перасяліўся ў маёнтак, атрыманы ў спадчыну ад стрыечнага дзеда Адама Грынеўскага. Тут ён непасрэдна заняўся фатаграфіяй і стаў сапраўдным майстрам. У 1910 годзе Я. Булгак упершыню ўдзельнічаў у сусветнай фотавыстаўцы ў Бруселі. У 1915 годзе выйшаў альбом у 6 тамах "Літва ў здымках Яна Булгака". Ён вельмі выразна здымаў Навагрудак, Мір, Нясвіж, Свіцязь, Крэва, Вілейку, Трокі, Вільню.

Памятны камень Яну Булгаку быў ўсталяваны ў вёсцы Пярэсека пад Менскам. Урачыстая падзея адкрыцця мемарыяльнай дошкі адбылася 6 кастрычніка на месцы былой сядзібы Я. Булгака ў прысутнасці прадстаўнікоў творчай інтэлігенцыі, мастацкіх калектываў, прадстаўнікоў Згуртавання беларускай шляхты.

У халодны ветраны дзень на пачатку імпрэзы гасцей саграvalі спевамі і заахвочвалі да танцаў "Крупіцкія музыкі". Адкрыў мерапрыемства крапальнымі словамі Мікола Котаў, а працягнуў сваім выступленнем фальклорны тэатр "Матуліна хата".

Да прыступных з прывітальнымі словамі звярнулася старшыня Міханавіцкага сельскага савета Святлана Уладзіміраўна Давальцова. Яна падзякавала за карысную ініцыятыву, якая зацікавіла мясцовых жыхароў.

- Ідэя ўшанаваць памяць Яна Булгака з'явілася ў мяне тры гады таму, - падзяліўся з прысутнымі сп.Францішак Жылка.- Я хацеў расказаць пра тых таленавітых людзей, якія нарадзіліся і жылі на нашай зямлі і вядомыя ва ўсім свеце. Дзякуючы падтрымцы старшыні сельсавета, я змог адрадзіць гэту мясціну, ачысціць і аднавіць. Камень давялося прывезці з Менскага раёна з дапамогай суседзяў - Ірыны і Дзмітрыя. Вядомы беларускі скульптар Валеры Калясінскі пагадзіўся пасупрацоўнічаць.

Пасля адкрыцця ганаровай дошкі дыпломамі былі ўзнагароджаны скульптар Валеры Калясінскі і спадар Францішак Жылка. Прадстаўнік Згуртавання беларускай шляхты Ігар Шакалаў-Шыдлоўскі ўручыў Ф. Жылку памятны знак. Прагучала пяцікратнае "Віват!". "Служу Айчыне! Адкажу перад Богам!" - прамовіў спадар Францішак Жылка.

- Добра, што мы ўспомнілі пра такога выбітнага чалавека праз 70 гадоў пасля яго смерці,- адзначыў доктар гістарычных навук, прафесар Леанід Міхайлавіч Лыч. - "Краязнаўчая газета" друкавала на сваіх старонках шмат артыкулаў пра яго. Ён заслугоўвае, каб пра яго з'явілася кніга.

Пра літаратурную дзейнасць Яна Булгака распавяла даследчыца і перакладчыца, дацэнт БДУ Ірына Багдановіч:

- Я займалася перакладам на беларускую мову паэмы Яна Булгака "Мая Зямля". На яе старонках я знайшла радкі пра страчаны рай: пра маляўнічыя куткі прыроды, шляхецкія фальваркі з партрэтамі продкаў і гадзіннікамі. Ян Булгак праявіў сябе таленавітым літаратарам.

На імпрэзе прысутнічала маладая даследчыца Маргарыта Петухова. Яна распавяла:

- Ян Булгак пачаў рабіць першыя фотаздымкі фотаапаратам сваёй жонкі Ганны. Гэты былі выявы навакольных двароў, здымкі блізкіх людзей. У яго аб'ектыў патрапілі і мясцовыя жыхары. Потым ён адчыніў тут, у Пярэсецы, мастацкую фотастудыю.

- Сёння мы бачым прыклад таго, як можна быць удзячным сваёй радзіме. Францішак Баляслававіч Жылка адрамантаваў млын у Жодзішках, паставіў капліцу ў роднай вёсцы - адрадзіў зямлю, дзе жыў Ян Булгак, і ўшанаваў яго памяць. Пярэсека, якая была закінутай многія гады, можа стаць цікавым турыстычным аб'ектам, дзе ёсць пра што распавесці нашым людзям і шматлікім турыстам з іншых краін. Няхай гэта места вабіць нас усіх, каб мы яшчэ прыязджалі сюды! - адзначыў старшыня Беларускага Фонда культуры Тадэвуш Стружэцкі.

*Эла Дзвінская,*
*фота аўтара.*

1. Камень з мемарыяльнай дошкай Яну Булгаку;
2. Францішак Баляслававіч Жылка і госці імпрэзы;
3. Ян Булгак.



***Навіны Германіі***

## Беларускія ўлады спадзяюцца на падтрымку Германіі ў пасоўванні адносін Менска і ЕС

Як заявіў кіраўнік урада Сяргей Румас на сустрэчы з амбасадарам ФРГ у Беларусі Манфрэдам Хутарэрам, у апошні час паміж Менскам і Бруселем усталяваліся больш цёплыя адносіны.

Прэм'ер падкрэсліў, што Германія з'яўляецца ключавым гульцом у ЕС, а таму ад пазіцыі афіцыйнага Берліна па тым ці іншым пытанні залежыць палітыка Еўрасаюза.

Па словах Румаса, эканамічны складнік *"будзе прыярытэтам у працы новага амбасадара Германіі"*. Ён нагадаў, што ў нашай краіне працуе больш трохсот фірмаў з удзелам нямецкага капіталу, а ФРГ *"традыцыйна з'яўляецца буйным гандлёвым партнёрам Беларусі"*.

Частка ўрада бачыць патэнцыял у гандлёва-эканамічных і інвестыцыйных адносін дзвюх краін.

- Мы вельмі здаволены тым, як працуе беларуска-германская працоўная група па гандлі і інвестыцыях і жадалі б, каб гэты дадатны досвед узяла працоўная група па навукова-тэхнічным супрацоўніцтве, мы чакаем аднаўлення яе працы, - сказаў Румас.



Беларускі бок таксама зацікаўлены ў больш актыўнай працы Рады дзелавога супрацоўніцтва, якая ў ранейшыя гады вельмі прадуктыўна дзейнічала ў пасоўванні інтарэсаў беларускага і нямецкага бізнэсу.

***Naviny.by.***

## Кангрэс Міжнароднага ПЭН-клуба занепакоены працяглай стыгматызацыяй беларускай мовы





Асамблея дэлегатаў Міжнароднага ПЭН-клуба на 85-м штогадовым кангрэсе, які адбываўся ў Маніле (Філіпіны) 1-5 кастрычніка, выказала занепакоенасць працяглай стыгматызацыяй беларускай мовы ў Беларусі, дзе ўлады ўжо амаль тры дзесяцігоддзі імкнуцца замацаваць дамінаванне рускай мовы.

- Некалькі гадзін таму 85-ты кангрэс Міжнароднага ПЭНа прыняў прапанаваную Беларускім ПЭНам рэзалюцыю адносна беларускай мовы. Мы вельмі добра разумеем: на рэзалюцыі праца не заканчваецца, а толькі пачынаецца. Беларускі ПЭН у кансорцыюме з іншымі беларускімі арганізацыямі працуе над супольнай кампаніяй па адвакатаванні беларускай мовы. І тут такая падтрымка [кангрэса] нязвыкла істотная, бо часта менавіта знешні інтарэс дазваляе заставацца ў тонусе інтарэсу ўнутранаму - на ўсіх узроўнях. А перадусім мы вельмі ўдзячныя ПЭНам Амерыкі, Украіны, Польшчы, Эстоніі, Латвіі і Санкт-Пецярбурга, якія падтрымалі нашу рэзалюцыю на самым пачатку (для вылучэння на галасаванне кангрэса). Таксама дзякуй вялікі тэлеканалу "Белсат" і ўсяму кансорцыюму арганізацый кампаніі "Беларускамоўныя" за супрацу і дапамогу ў рабоце над рэзалюцыяй, - пракаментавала падзею старшыня Беларускага ПЭН-цэнтра Тацццяна Нядбай.

У закліку Беларускага ПЭН-цэнтра адзначаецца, што ўлады цураюцца беларускай мовы. На афіцыйным узроўні ўсе законы напісаныя па-руску. Абмяжоўваецца доступ да адукацыі на беларускай мове: толькі 13% вучняў навучаюцца па-беларуску, а ў краіне няма ніводнага ўніверсітэта з беларускай мовай выкладання. У Беларусі 85% кніг выдаюцца па-руску. У той жа час тэлеканал "Белсат" не можа платна прасоўваць уласны відэаконтэнт на сваіх жа YouTube-каналах, бо Google Ads не падтрымлівае беларускай мовы. Гэта сур'ёзна ўплывае на эфектыўнасць спробаў пашырэння глядацкай аўдыторыі ды распаўсюду пэўнай і спраўджанай інфармацыі, адзначаюць аўтары рэзалюцыі. Асамблея дэлегатаў Міжнароднага ПЭН-клуба заклікае беларускія ўлады дзейнічаць згодна з артыкулам 17 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, які заканадаўча замацаваў статус беларускай мовы як дзяржаўнай, а Google ды іншыя інтэрнэт-платформы прызнаць беларускую мову і забяспечыць беларусам магчымасць выказвацца і свабодна камунікаваць з прадстаўнікамі ўласных супольнасцяў ды іншымі людзьмі на беларускай мове.

Поўны тэкст рэзалюцыі змешчаны на сайце Беларускага ПЭН-цэнтра.

***belapan.by.***

